


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 2 (173) СТУДЗЕНЬ 2014 ГОДА


Цытата нумара:

**Мае веды песімістычны, але вера мая аптымістычна**

*Альберт Швейцар*

ПРАБЛЕМЫ РЫНКА

# ЗАМЕСТ ВЫТВОРЧАСЦІ ПЛАНУЕЦЦА СТВАРЫЦЬ РЫНАК

**Мясцовыя ўлады прапануюць размясціць рынак на пастаяннае месца на тэрыторыі закрытага харчовага камбіната па вул. Невельская шаша, 37. Дзеля гэтага неабходна урэгуляваць пытанне ўласнасці з Нацыянальнай акадэміяй навук, якая з'яўляецца кіруючым органам для былога Гарадоцкага харчовага камбіната.**

Пытанне пастаяннага месца рынка ў Гарадку хвалюе не толькі прыватных прадпрымальнікаў, якія працуюць на ім, але і спажыўцоў. Не зусім адэкватнае рашэнне гарадоцкіх уладаў ліквідаваць рынак па вул. Валадарскага і на яго месце пабудаваць гандлёвы цэнтр Гарадоцкага райспажыўсаюза паставіла рубам пытанне аб месце для пастаяннага рынка ў Гарадку.

Пры існаванні розных варыянтаў для месца рынка ў Гарадку ўлады разглядаюць найбольш верагодным пляцоўкай месца на тэрыторыі былога харчовага камбіната.

Але дзеля вырашэння гэтага пытання неабходна ў самы бліжэйшы час вырашыць пытанне з уласнікам рэспубліканскай маёмасці Нацыянальнай акадэміяй навук. Менавіта яе структурнае падраздзяленне Талачынскі кансервавы завод з'яўляецца балансаўтрымальнікам былога Гарадоцкага харчовага камбіната.

У мінулым годзе маёмасць былога Гарадоцкага харчовага камбіната была выстаўлена на продаж, як цэлы пакет маёмасці з 12 аб'ектаў. На продаж прапанаваліся памяшканні, якія не выкарыстоўваліся з 2007 года і часткова прыйшлі ў аварыйнае становішча. Пры гэтым агульны кошт гэтай маёмасці быў ацэнены больш чым у 3,8 мільярда рублёў. Напрыканцы 2013 года фондам "Віцебскаблмаёмасць" быў прызначаны аукцыён па продажы харчовага камбіната. Але не знайшлося жадаючых набыць занядбаную маёмасць за неадэкватны кошт.

Зараз віцебскія чыноўнікі пры прэзентацыі планаў на "Дажынкі-2014" кажуць пра тое, што рынак неабходна размясціць на гэтай тэрыторыі. Відавочна, што ніхто не збіраецца набываць гэтую маёмасць за цану ў 400 тысяч даляраў, каб потым яе руйнаваць пад пляцоўку для рынка. Але бачачы разваротлівасць тутэйшых чыноўнікаў, якія казалі аб завяршэнні ўсіх прац да Дажынак да снежня 2013, а толькі зараз пачынаюць разгортваць рэканструкцыю Гарадка, не цяжка ўявіць, што будоўля рынка на новым месцы амаль не мае шанцаў завяршыцца да пачатку Дажынак.

У гэтай сітуацыі бачыцца, што найбольш адэкватным рашэннем было б захаванне за рынкам яго месца на вул. Валадарская з дабраўпарадкаваннем падобным на Полацкі ці Смаленскі рынкі г. Віцебска. Праўда па існуючаму праекту на гэта месца можа патрапіць толькі трэць прадпрымальнікаў. Для 50-60 прадпрымальнікаў пасля фестываля магчыма ж прапанаваць месцы на тых пляцоўках у цэнтры Гарадка, дзе будзе ладзіцца святкаванне "Дажынак".

Толькі для гэтага неабходна праца з прадпрымальнікамі з бізнес-прапановай, каб не на словах, каб не пальцах, растлумачыць намеры ўладаў.

**Леанід Гаравы**



У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

# БУДАЎНІЦТВА З ПАРУШЭННЕМ ДЗЕЮЧАГА ЗАКАНАДАЎСТВА

**На большасці аб'ектаў, якія зараз рэканструюцца ў Гарадку, назіраюцца парушэнні заканадаўства, якое рэгламентуе будаўнічую дзейнасць**

У першую чаргу гэта датычыцца самага першага аб'екта рэканструкцыі – вайсковых могілак і цэнтральнай плошчы.

Дзяржаўныя СМІ пачалі пісаць пра гэты аб'ект яшчэ ў чэрвені, калі і распачаўся дэмантаж гэтых аб'ектаў. Але пачаліся гэтыя працы без дазвола Дзяржбуднагляд, што з'яўляецца грубым парушэннем заканадаўства. Толькі ў кастрычніку быў дадзены дазвол аб рэканструкцыі гэтых аб'ектаў і на аб'екце, пасля трох месяцаў працы, з'явіўся пашпарт.

Па гэтаму пашпарту магчыма даведацца, што аб'ект і не планаваўся здаць у эксплуатацыю да 70-годдзя вызвалення Гарадка, як ілжыва казалі ў Гарадоцкім райвыканкаме карэспандэнту Белта напачатку мінулага лета. Рэкаструіраваць могілкі і плошчу павінны да сакавіка гэтага года, але было б добра, калі рэканструкцыя завяршылася бы да Дня Перамогі. Толькі хутчэй за ўсё гэту чарговую "перамогу" абвясцяць да Дня рэспублікі – 3 ліпеня.

Падобныя парушэнні назіраюцца зараз і на двух іншых будаўнічых аб'ектах. Рэканструкцыю аўтастанцыі распачалі яшчэ ў снежні – адразу пасля закрыцця аўтастанцыі. Але пасля часткова дэмантажа будынка і выстаўлення плота праца спынілася. І грамадскасці да гэтага часу не вядома хто займаецца тут будоўляй і калі плануецца завяршыць працу, бо пашпарта на гэтай будоўлі ўсё яшчэ няма.

Няма пашпарта на будоўлі і па рэканструкцыі кінатэатра "Радзіма", дзе плануецца стварыць "Цэнтр адпачынка".



Тут дэмантаж распачаўся з першых дзён новага года, але таксама вядзецца інкогніта.

Толькі рэканструкцыя чыгуначнага вакзала вядзецца па дзеючых стандартах. На вакзале ўлічаны інтарэсы спажыўцоў – пракладзена цвёрдая дарога да перону, абсталяваны прыпыначны пункт, вывешаны пашпарт аб'екта. З яго магчыма даведацца, што рэканструкцыю вакзала плануюць завяршыць у жніўні. Але па такіх тэмпах працы гэта можа адбыцца і раней.

**Л. Антонаў**

МАЁМАСЦЬ

# ЧАРГОВАЯ СПРОБА РАЗАБРАЦЦА З ЗАНЯДБАНАЙ МАЁМАСЦЮ

**На Гарадоччыне ў чарговы раз зроблена інвентарызацыя невыкарыстоўваемай як трэба маёмасці. Пры гэтым спіс такой маёмасці павялічыўся ўжо амаль у два разы за апошнія чатыры гады.**

З сярэдзіны мінулага дзесяцігоддзя ў краіне вядзецца праца па ліквідацыі маёмасці, якая не мае гаспадароў або імі не выкарыстоўваецца. За гэты час у раёне было знесена больш чатырох соцен дамоў, якія не выкарыстоўваліся і часам знаходзіліся ў аварыйным стане.

Гарадоцкі райвыканкам у 2010 годзе вызначыўся з аб'ектамі, якія не выкарыстоўваліся і падлягалі ўцягненню ў гаспадарчую дзейнасць. Па стану на 1.01.2010 такіх аб'ектаў было тоолькі 39, а праз восем месяцаў іх колькасць павялічылася да 163. У асноўным за кошт далучэння аб'ектаў сельскагаспадарчых арганізацый, якія прадставілі склады, фермы, жылыя дамы і іншыя гаспадарчыя пабудовы, што не выкарыстоўваліся ў сельскай мясцовасці.

Але за тры гады гэтыя аб'екты ў пераважнай большасці так і не знайшлі жадаючых гаспадароў, якім патрэбны былі б недагледжаныя пабудовы. Між тым правядзенне "Дажынак—2014" настойліва патрабуе, каб гэтыя аб'екты або набылі гаспадара, які давядзе іх да ладу або былі ліквідаваны. Яшчэ ў ліпені старшыня Віцебскага аблвыканкама Аляксандр Косінец крытычна выказаўся па кепскі стан недагледжанай маёмасці ў Гарадоцкім раёне, якая знаходзіцца ў аварыйным становішчы. Па яго ацэнках такіх объектаў у раёне каля 365 і іх трэба прывесці ў парадак да 1 снежня.

Гэта ўказанне старшыні не было выканана, як і іншыя прапагандыскія заявы. На сёння Гарадоцкі выканаўчы камітэт сумесна з фондам "Віцебскаблмаёмасць" у 2014 годзе прапануе ўсім азнаёміцца з 310 аб'ектамі нерухомай маёмасці дзеля яе продажу, арэнды або бязвыплатнага карыстання, для разборкі і г.д..

Дадзеныя аб'екты прапанаваны да продажу (у тым ліку на аўкцыёне з устанаўленнем пачатковай цаны, роўнай адной базавай велічын , для рэканструкцыі пад жылое памяшканне або вядзенне асабістай падсобнай гаспадаркі), здачы ў арэнду або бязвыплатнае карыстанне, перадачы ва ўласнасць пад інвестыцыйны праект ( для арганізацыі вытворчасці , выканання работ і аказання паслуг), а таксама для разборкі і іншых мэтаў.

Ад большасці гэтых аб'ектаў шакуе гледачоў сваёй занядбанасцю. У гэтым магчыма пераканацца па фота, калі азнаёміцца з імі на сайце фонда "Віцебскаблмаёмасць", дзе яны размешчаны на першай пазіцыі.

**Л. Антонаў**

НАША СПАДЧЫНА

# УНІКАЛЬНАЯ АБРАДАВАЯ ГУЛЬНЯ

**Абрадавая гульня "Пахаванне дзеда" чакае занясення ў Спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Беларусі. Пры гэтым масленічная абрадавая гульня «Пахаванне дзеда» з Даўгапольскага сельсавета ўжо занесена ў Нацыянальны інвентар нематэрыяльнай культурнай спадчыны Беларусі, які створаны пры фінансавай і кансультыўнай падтрымцы ЮНЕСКА.**

Пра гэта магчыма даведацца, наведаўшы сайт "Жывая спадчына Беларусі" – гэта спецыялізаваны рэсурс Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, які ўтрымлівае інфармацыю пра здабыткі нематэрыяльнай культурнай спадчыны Беларусі.

Нацыянальны інвентар нематэрыяльнай культурнай спадчыны(далей–НКС)Беларусі з'яўляецца важным складнікам дзейнасці па імплементацыі Канвенцыі ЮНЕСКА аб захаванні нематэрыяльнай культурнай спадчыны. Яго асноўная мэта – забеспячэнне аховы НКС і яе ўстойлівага развіцця, падтрымка носьбітаў НКС; уключэнне НКС ў сферу рэгіянальнай палітыкі.

Інвентар НКС Беларусі падкрэслівае неабходнасць захавання раўнавагі паміж сацыяльна-эканамічным развіццём рэгіёнаў, аховай культурнага ландшафта, дасягненнямі народнай культуры, традыцыйным ладам жыцця, экасістэмай увогуле. Захаванне і папулярызацыя нематэрыяльнай культурнай спадчыны,традыцыйных ведаў і практык можа стаць пазітыўным імпульсам для развіцця рэгіёнаў, іх самаідэнтыфікацыі і культурнай самарэалізацыі.

З Віцебскай вобласці ў Нацыянальны інветар занесена толькі пяць каштоўнасцей з Гарадоцкага, Глыбоцкага і Лепельскага раёнаў. Ад нашага рэгіёну там дзве каштоўнасці: "Традыцыя ажурнага ткацтва" і "Масленічная абрадавая гульня «Пахаванне дзеда»".

Пра другую каштоўнасць на сайце "Жывая спадчына Беларусі" распавядаецца так: "Абрадавая гульня «Пахаванне дзеда» прымеркавана да масленічнага тыдня і ўяўляе сабой своеасаблівую кульмінацыйную кропку гэтага часу. «Пахаванне дзеда» – адметнае праяўленне лакальнай культурнай традыцыі вёсак Маскаляняты і Даўгаполле Гарадоцкага раёна. Носьбіты традыцыі і ўдзельнікі абрадавай гульні выразна ўсведамляюць яе дакладную прымеркаванасць да Масленкі. У вобразе дзеда персаніфікуюцца і матэрыяльна ўвасабляюцца «мясныя запусты» — як кажуць: «Дзед падавіўся косткай». Бытаванне абраду ў межах супольнасці з'яўляецца неперарыўным. У дзеі, якая праводзіцца кожны год у першы панядзелак Масленіцы, удзельнічаюць, у асноўным, жанчыны, прычым сталага ўзросту. Незамужнія маладыя дзяўчаты да ўдзелу ў абрадзе не допускаюцца. Пасля памінання продкаў у «Таўстую суботу» жыхары вёсак Маскаляняты і Даўгаполле хаваюць міфалагічнага дзеда-продка (Сідорку і Цімку адпаведна), увасобленага ў спецыяльна падрыхтаванай антрапаморфнай ляльцы, якое мае палярныя характарыстыкі – абжора, п'яніца, гуляка, працавіты чалавек, жыццялюб, моцны. На працягу дня жыхары вёскі ўключаюцца ў гульню і кожны, хто прыходзіць развітацца з дзедам перад пахаваннем, атрымлівае сваю ролю, творча яе развівае. Жанчыны галосяць, а мужчыны, як правіла, падкрэсліваюць рысы характару і факты з жыцця міфалагічнага памерлага. Дыялогі і галашэнні характарызуюцца варыятыўнасцю. Такім чынам, абрад прымае гульнёвую форму і набывае імправізацыйны характар у межах традыцыі. Абрад адзначаецца таксама і ярка выражаным эратычным зместам. Абрад «Пахаванне дзеда» перадаецца з пакалення ў пакаленне і прызнаецца супольнасцямі сваёй каштоўнасцю."

Паспасылцы livingheritage.by/nks/1836/ магчыма азнаёміцца і з іншай інфармацыяй аб гэтым унікальным абрадзе, у тым ліку пабачыць фота- і відэадакументы. Адзначым, што першую спробу паведаміць грамадскасці аб гэтым абрадзе ў 2001 годзе зрабіла Т.І. Кухаронак, а галоўную працу ў нашы дні выканалі супрацоўнікі аддзела культуры Гарадоцкага райвыканкама пры непасрэдным удзеле жыхароў в. Даўгаполле і в. Маскаляняты.

**Л. Антонаў**

САМАУПРАЎСТВА

# І ДАЛЕЙ ІГНАРУЮЦЬ ПРЫРОДААХОЎНАЕ ЗАКАНАДАЎСТВА

**Кіраўнікі сельгаспрадпрыемстваў Гарадоччыны працягваюць ігнараваць прыродаахоўнае заканадаўства краіны самаўпраўна займаючыся водакарыстаннем больш двух гадоў, пры гэтым у КУСГП ім . Дзімітрава дазвол на водакарыстанне ніколі не афармляўся.**

Паводле інфармацыі намесніка пракурора Гарадоцкага раёна Максіма Зіновіка на сайце Гарадоцкага райвыканкама пры праверцы пракуратурай у лістападзе - снежні 2013 з боку КУСГП «Сцяпанавічы», ААТ «Гарадоцкі райаграпрамзаб», КУСГП ім. Свярдлова і КУСГП ім. Дзімітрава былі выяўлены сістэматычныя парушэнні патрабаванняў прыродаахоўнага заканадаўства.

Гэтыя прадпрыемствы ажыццяўлялі забор вады для сельскагаспадарчых патрэб, нягледзячы на тое, што тэрміны дзеяння дазволаў на спецыяльнае водакарыстанне даўно закончыліся. Дадзеныя дазволы пацвярджаючь бяспеку ажыццяўляемага імі спецыяльнага водакарыстання для навакольнага асяроддзя. Толькі вось іх дзеянне скончылася для КУСГП «Сцяпанавічы» яшчэ 3 траўня 2009 г., для ААТ «Гарадоцкі райаграпрамзаб» 4 красавіка 2011 г., для, КУСГП ім. Свярдлова 14 красавіка 2011. Пры гэтым КУСГП ім. Дзімітрава дадзены дазвол у законным парадку наогул не афармляўся.

Пракуратурай раёна КУСГП «Сцяпанавічы», ААТ «Гарадоцкі райаграпразаб», КУСГП ім. Свярдлова і КУСГП ім. Дзімітрава вынесеныя прадпісанні з патрабаваннямі неадкладна прыняць належныя меры да ліквідацыі названых парушэнняў заканадаўства і атрымання ва ўстаноўленым парадку дазволаў на ажыццяўленне спецыяльнага водакарыстання. Пры гэтым у адрас начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Гарадоцкага райвыканкама было ўнесена адпаведнае прадстаўленне. Адначасова з гэтым кіраўнікі адпаведных прадпрыемстваў Раманаў У.В., Ігнацьева В.М. і Усеваладава Л.А. пракуратурай раёна на падставе арт. 23.1 КаАП Рэспублікі Беларусь прыцягнуты да адміністацыйнай адказнасці.

Нагадаем, што раней на дадзеныя парушэнні звяртаў ўвагу і Віцебскі абласны камітэт аховы прыродных рэсурсаў і навакольнага асяроддзя, калі вясной 2013 году наклаў на парушальнікаў воднага заканадаўства з пяці прадпрыемстваў 3 млн. 940 тысяч руб. штрафу.

На працягу 2013 пракуратурай Гарадоцкага раёна ўсяго праведзены 3 праверкі выканання прыродаахоўнага заканадаўства, па выніках якіх унесены 5 прадстаўленняў, вынесеныя 16 прадпісанняў, прынесены 5 пратэстаў, абвешчаны 11 афіцыйных папярэджанняў, 13 чалавек прыцягнуты да дысцыплінарнай адказнасці, 15 асоб - да адміністрацыйнай адказнасці, 8 фізічных асоб прыцягнуты да матэрыяльнай адказнасці на агульную суму 3.950.000 рублёў, па выніках праверак распачатыя 2 крымінальныя справы, якія накіраваны ў суд для разгляду па сутнасці.

**Т. Гаражанка**

КРЫМІНАЛ

# ПАДРАБЯЗНАСЦІ АДНАГО ЗАТРЫМАННЯ

**Двое жыхароў Віцебскай вобласці сагналі «Жыгулі» у абласным цэнтры, здзейснілі крадзеж з узломам у Гарадоцкім раёне, але былі затрыманыя міліцыяй**

Двое жыхароў Віцебскай вобласці сагналі «Жыгулі» у абласным цэнтры, здзейснілі крадзеж з узломам у Гарадоцкім раёне, але былі затрыманыя міліцыяй

У ноч з 18 на 19 студзеня супрацоўнікі АМАП палка ППСМ УУС аблвыканкама праводзілі рэйдавыя мерапрыемствы на прыгранічнай тэрыторыі з Расійскай Федэрацыяй на трасе Е95 Санкт-Пецярбург - Адэса. У пачатку першага ночы ўвагу камандзіра групы другой роты малодшага лейтэнанта міліцыі Юрыя Міхайлава прыцягнуў увагу аўтамабіль ВАЗ-2105, які рухаўся па начной трасе па кірунку да абласнога цэнтру. Кіроўца «жыгулёнка» праігнараваў патрабаванне супрацоўніка міліцыі аб прыпынку і павялічыў хуткасць руху.

Службовы УАЗ пад кіраваннем міліцыянта-кіроўцы старшыны міліцыі Сяргея Мурашевіча іврануў следам. Пераслед доўжылася пару дзесяткаў кіламетраў. Калі зламыснік зразумеў, што ад пагоні не сысці, машына рэзка спынілася на абочыне і кіроўца «пяцёркі» кінуўся ў бок лесу, следам за ім Юры - дагнаў, паваліў у снег і цісканўў кайданкі на яго запясцях. У салоне застаўся пасажыр, як высветлілася пазней, раней судзімы за крадзеж 58-гадовы жыхар Віцебска, якога затрымаў Сяргей Мурашевіч.

Прычына такіх паводзінаў уцекачоў стала зразумелая пасля агляду аўтамабіля, на які ў кіроўцы не мелася дакументаў. Багажнік і салон легкавушкі былі забітыя прадуктамі, цыгарэтамі і спіртным. Лёгкай здабычай сталі тавары з крамы Гарадоцкага райпо ў вёсцы Пляханава (рэдакцыя - за в. Халамерье). 28-гадовы жыхар Бешанковіцкага раёна і яго «больш вопытны» старэйшы таварыш напярэдадні сагналі «Жыгулі» у Віцебску, а праз тыдзень адправіліся на іх на здзяйсненне крадзяжу. Пад покрывам ночы сарвалі ў краме навясны замак і «атаварыць» на 7 мільёнаў. У дачыненні да крымінальнага дуэта ўзбуджаная крымінальная справа па частцы 2 артыкула 205 Крымінальнага кодэкса.

**Вольга Шкуратава**
**"Віцьбічы", www.vitbichi.by**

ЗДАРОВЫ ЛАД ЖЫЦЦЯ

# ДЗЕЙНІЧАЕ ТОЛЬКІ АДЗІН КАТОК

**Зімой 2014 года ў Гарадку дзейнічае толькі адзін каток, замест трох, якія былі ў папярэднія гады**

З мінулага тыдня на спартыўнай пляцоўцы Гарадоцкага прафесійна-тэхнічнага каледжа па вул. Баграмяна пачала дзейнічаць лядовая пляцоўка. Супрацоўнікі і навучэнцы каледжа з наступленнем марозаў пачалі заліўку пляцоўкі і ў выходныя дні на ёй магчыма было катацца. Для палепшэння якасці льду амаль штодня лёд на пляцоўцы навучэнцамі каледжа аднаўляецца.

У папярэднія гады ў Гарадку было яшчэ дзве лядовыя пляцоўцы: на цэнтральнай плошчы і каля ФАКа па вул. Гагарына. У гэтым годзе пры рэканструкцыі плошчы, кінатэатра там не запланавана лядовая пляцоўка.

Але не заліваецца і пляцоўка каля ФАКа, якую некалькі гадоў назад пабудавала Гарадоцкая птушкафабрыка. Зараз гэтая пляцоўка належыць аддзелу адукацыі, спорта і турызма і стварэнне на ёй лядовага катка не адбываецца. Мусіць чыноўнікі вырашылі гэтага не рабіць, бо бліжэйшым часам павінен распачацца капітальны рамонт гатэля Цэнтра алімпійскага рэзерва па зімовых відах спорту па вул. Гагарына.

Але і на існуючай адзінай у Гарадку лядовай пляцоўцы аматараў здаровага ладу жыцця не шмат. Гэта толькі на паперы ў чыноўнікаў у нас фізкультурай займаецца амаль кожны шосты грамадзянін – больш двух тысяч (!!!) у Гарадку. Арганізатарамі здаровага ладу ужо каторы год не арганізуецца ніякіх зімовых святаў на лядовых пляцоўках райцэнтра, акрамя хакейных гульняў. Ды і тыя трымаюцца з большага на самадзейнасці аматараў хакейных баталій.

Самадзейныя ж аматары катання на коўзанках могуць набыць іх напракат у ДЮСШ за дэмакратычны кошт.

**Л. Антонаў**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размешчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

ДАТА

# МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ РОДНАЙ МОВЫ

**Міжнародны дзень роднай мовы адзначаецца штогод 21 лютага з мэтай узняць пытанні моўнай і культурнай разнастайнасці і шматмоўнасці. Гэта дата была ўпершыню абвешчана ЮНЭСКА 17 лістапада 1999 года. Адзначэнне гэтага дня было таксама прызнана Генеральнай асамблеяй ААН у яе рэзалюцыі 2008 года, якая абвяшчала гэты год Міжнародным годам моў.**

Міжнародны дзень роднай мовы паўстаў як вынік міжнароднага прызнання Дня руху за мову, які адзначаецца ў Бангладэш з 1952 года. У тым годзе шмат студэнтаў былі забітыя пакістанскай паліцыяй у горадзе Дака падчас пратэстаў, арганізаваных Рухам за мову бенгалі.

Мовы з'яўляюцца самым моцным інструментам захавання і развіцця нашай матэрыяльнай і духоўнай спадчыны. Паводле ацэнак ЮНЕСКА палова з 6 тысяч моў свету могуць у бліжэйшы час страціць апошніх носьбітаў.

Усе крокі па спрыяння распаўсюджвання родных моў служаць не толькі садзейнічанню моўнай разнастайнасці і шматмоўнай адукацыі, развіццю больш поўнага знаёмства з моўнымі і культурнымі традыцыямі па ўсім свеце, але і мацуюць салідарнасць заснаваную на ўзаемаразуменні, талерантнасці і дыялогу.

ГАЛОЎНАЯ ПАДЗЕЯ - МАЙДАН

# Я ДУМАЛА ЗАСТАЦЦА ЎБАКУ…

**Ніколі я нічога тут не пісала, але цяпер не магу маўчаць. Тры гады я жыву ў Кіеве. Тры гады я хаджу па гэтых вуліцах, сябрую, працую і маю стасункі з гэтымі людзьмі. Маю стасункі не толькі з калегамі па працы, а з прадаўцамі, таксістамі, суседзямі, канцьержамі, домаўладальнікамі і бізнэсменамі … Я была ў Прыкарпацці і ў Закарпацці. І ні разу, чуеце, ні разу я не сутыкалася з непрыманнем рускіх ці яўрэяў, ні на бытавым, ні на грамадскім узроўні.**

З першых жа слоў мяне вызначалі ўсюды — «Вы масквічка? Па гаворцы чуваць». Спачатку я — паўяўрэйка-паўмаскалька — жудасна напружвалася, але пасля пагадзілася з тым, што я і праўда масквічка, і гэтая тэма больш не падымалася — калі я сама яе не развівала. Прыязны тон не мяняўся, нідзе ні разу не зрабілі выгляд, што не разумеюць маю рускую мову.

Так, у мяне былі праблемы, і як ні дзіўна, менавіта з калегамі — хоць нічога дзіўнага ў гэтым і няма. Свет тэлебачання — гэта свет, дзе ўсе мы працуем з «мовай». Але яшчэ гэта свет, дзе збіраюцца людзі з усёй краіны. Тут плячо ў плячо працуюць прыезджыя з Армянска (Крым) і з Івана-Франкоўска (Захад).

Так, многія, хто прыехаў з захаду, не вельмі ж ведаюць рускую — у іх яна была 2 гадзіны на тыдзень, як замежная, ды яна і праўда для іх замежная, бо, падабаецца нам, расейцам, гэта ці не, Украіна – гэта, як раней казалі,«заграніца».Так,наскрозь працятая асабістымі сувязямі, якія значна мацнейшыя за любыя грамадскія дамовы, але замежжа, са сваімі законамі, традыцыямі, мовай, гімнам і іншымі атрыбутамі самастойнай дзяржавы.

Так, нам з калегамі, напэўна, было цяжка спачатку: ім, не вельмі абазнаным у рускай мове, і мне, зусім не абазнанай ва ўкраінскай. Але мы вельмі стараліся адзін аднаго зразумець, і праз пару месяцаў я перастала вылупляць вочы, калі яны пераходзілі на ўкраінскую хуткамоўку, а яны перасталі з задуменным выглядам спрабаваць перакласці ў галаве маю рускую мову.

І вось здарыўся ён — Майдан. З Масквы мне тэлефануюць сябры, сваякі і калегі. Яны ўсе шчыра баяцца за мяне, перажываюць, што я апынулася тут, у Кіеве, падчас рэвалюцыі. Яны шчыра лічаць, што на Майдане сабралася купка маргіналаў і значна большая колькасць неанацыстаў — агрэсіўных, якія закідвалі кактэйлямі молатава няшчасных праваахоўнікаў-беркутаўцаў. Маргіналаў, якія не маюць ні пачуцця самазахавання, ні пачуцця адказнасці за сваю краіну. У гэтым расейцаў цэлыя суткі пераконвае расійскае тэлебачанне.

Калі невідушчага пераконваць, што чорнае гэта белае, а белае — чорнае, рана ці позна ён у гэта паверыць. Дык вось, я яшчэ не ў натоўпе, пакуль я была толькі збоку. Я адсочваю сітуацыю па розных крыніцах. Я яшчэ не ўзбуджаная, не натхнёная Майданам знутры, так што пакуль не магу меркаваць аб'ектыўна. Я ведаю тых, хто там стаіць. Паверце — гэта не маргіналы, гэта не бандэраўцы, якіх нібыта звезлі з заходняй Украіны.

Гэта людзі, з якімі я маю зносіны блізка, а з некаторымі літаральна кожны дзень. Гэта Кіяўляне. Гэта мае калегі, якія без пафасу, без крыку кожны вечар\ дзень\ноч стаяць на Майдане — не па прафесійным абавязку — а па грамадзянскім. Маладыя, ім да 35, таленавітыя, з вышэйшай адукацыяй людзі.

Гэта мая сяброўка-пенсіянерка, інтэлігентная дама з трыма вышэйшымі адукацыямі. Гэта іншая мая сяброўка, галоўны бухгалтар фірмы. Гэта сям'я: бацька-бізнэсмен, сын-мастак і дачка — кіраўнік праекта. Вось гэтыя людзі — гэта 80 % Майдана.

Яны не імкнуліся выходзіць на вуліцу. Яны былі вымушаныя. Пачуццё ўласнай годнасці і адказнасці за сваю краіну, за сваіх дзяцей і за будучыню прымушае іх стаяць ужо амаль 2 месяцы, цяпер у 20-градусны мароз.

Не, не за еўраінтэграцыю або ўласныя амбіцыі. Яны выходзяць пасля першай жа зачысткі Беркута. Таму што ў іх свядомасці не ўкладаецца, што мірных грамадзян можна не проста біць — амаль забіваць, дабіваючы тых, хто ўпаў, нагамі. Што пажылую жанчыну, якая на каленях моліць, каб не забівалі яе састарэлага, ужо збітага да паўсмерці мужа — можна ўдарыць дубінкай па твары. Што студэнта можна распрануць дагала, пусціць праз строй людзей з дубінкамі, якія потым будуць разразаць яму нажом сакральные месца.

Яны не могуць і не хочуць так жыць. Яны не хочуць пакінуць такі свет сваім дзецям. І я паважаю іх.

Улада справакавала гэта, менавіта ўлада адказная за тое, што мірны мітынг, у выніку, стаў месцам бойкі. Улада, якая аддае злачынныя загады, якая галасуе за непрымальныя законы, якая прывозіць «цітушак»-гопнікаў з усёй краіны для правакацый. Удумайцеся — так майданаўцы абараняюць свае правы на свабоду ўжо з кактэйлямі Молатава і самаробнымі каламі, але супраць іх стаяць узброеныя і навучаныя людзі ў поўнай экіпіроўцы, якія першымі ўжылі гвалт да мірных грамадзян.

Украіна — не Расія. Тут такія выхадкі проста так не праходзяць.

І вось цяпер людзі Майдана абвешчаныя па-за законам. І я, ведаючы іх, разумею — вони не пійдут з Майдану. Так, ім страшна — таму што там б'юць, таму што ўжо страляюць і невядома, што можа быць праз некалькі гадзін, але вони не пійдут. Таму што яшчэ страшней думаць пра тое, што будзе заўтра з імі і з краінай — калі сёння яны адступяць.

І сёння я ўжо не застануся збоку. Так, матуля, ты ўмольвала мяне нікуды не лезці, даруй, мам, але сёння я буду там, побач са сваімі калегамі і сябрамі, побач з кіяўлянамі, нават калі таксама апынуся па-за законам. Але калі мяне там не будзе — я назаўжды страчу спакой.

Я заўсёды захаплялася ўменнем украінцаў не дазваляць уладзе барзець, а зараз захапляюся яшчэ больш, і я пайду на Майдан падтрымаць людзей, з якімі плячо ў плячо жыву тры гады. Людзей, настолькі гордых і неабыякавых да свайго ўласнага лёсу і да будучыні сваёй краіны.

Слава Украіне, Героям слава!

**Ганна Голанд, масквічка, якая працавала і ўжо жыве ў Кіеве**

ЯК БЫЛО

# ЯКІЯ ПЫТАНЬНІ НЕ ПРАПУСЬЦІЛА ЦЭНЗУРА

**«Парэзалі толькі мае пытаньні, а таксама значную частку адказаў Аляксандра Лукашэнкі, – распавёў Свабодзе дырэктар кампаніі БелаПАН Алесь Ліпай.**

21 студзеня Аляксандар Лукашэнка правёў у Палацы незалежнасьці сустрэчу з кіраўнікамі 11 беларускіх мэдыяў. Сустрэча доўжылася амаль 5 гадзінаў. Беларускае тэлебачаньне паказала паўтарагадзінную трансьляцыю.

Алесь Ліпай распавёў Радыё Свабода, што не паказала БТ з сустрэчы прэзыдэнта з кіраўнікамі СМІ:

«Фактычна выразалі маё пытаньне, ці будуць падпадаць пад амністыю палітычныя зьняволеныя. Я канкрэтна прывёў прыклад Статкевіча і Бяляцкага і патлумачыў, чаму я лічу, што яны мусяць быць вызваленыя.

Не паказалі і ягоны адказ, дзе ён даў даручэньне Радзькову праверыць маю інфармацыю пра выплату за кошт грамадзкіх ахвяраваньняў стратаў, якія, паводле суду, былі нанесеныя Бяляцкім дзяржаве. І калі гэта сапраўды так, сказаў Лукашэнка, то трэба будзе чалавека вызваляць.

Таксама не паказалі адказ Аляксандра Лукашэнкі пра тое, што Статкевіч можа проста напісаць прашэньне пра памілаваньне, не прызнаючы сваю віну, і ў адпаведнасьці зь дзейным парадкам гэтае пытаньне будзе разгледжана.

Даволі сур'ёзна парэзанае маё пытаньне пра беларускую мову. Я гаварыў пра тое, што яна набывае папулярнасьць цяпер у грамадзтве. І не дзякуючы дзяржаве, а дзякуючы грамадзкім ініцыятывам. Прывёў прыклады курсаў «Мова ці кава» і «Мова нанова». Прывёў прыклад, як зарэгістраваная арганізацыя – Таварыства беларускай мовы – мусіла зьбіраць ахвяраваньні, каб заплаціць за офіс. І прапанаваў ужо другі раз яму ўвесьці практыку дзяржаўных грантаў для арганізацый, якія спрыяюць разьвіцьцю беларускай мовы.

Фактычна ён даў даручэньне Радзькову разгледзець гэтае пытаньне. Сам сказаў, што становіча ставіцца да беларускай мовы і хоча, каб на ёй гаварылі можа нават больш, чым я. Дарэчы, ягоны адказ на гэтае пытаньне таксама сур'ёзна парэзалі. А з таго, што паказалі, было даручэньне Радзькову разгледзець варыянт адкрыцьця курсаў беларускай мовы пры інстытутах і ўнівэрсытэтах».

Алесь Ліпай упэўнены, што ісьці на сустрэчу было варта:

«Трэба чалавеку гаварыць пра тое, што існуюць іншыя меркаваньні ў беларускім грамадзтве. Нягледзячы на тое, што Павал Якубовіч узьняў пытаньне пра палітычных зьняволеных, я гэтае пытаньне канкрэтызаваў, гаварыў пра канкрэтных людзей. Я атрымаў ад яго фактычна гарантыю таго, што пытаньне аб іх вызваленьні будзе разгледзенае. Я спадзяюся, што гэта сапраўды так. Бо ўтрымліваць іх за кратамі ня мае для яго палітычнага сэнсу, і нават шкодзіць беларускай дзяржаве."

На пытаньне, ці не хвалюецца ён, што ўдзел недзяржаўнага СМІ ўтакогакшталтумерапрыемстве будзе выкарыстаны беларускімі ўладамі ў прапагандысцкіх мэтах, Алесь Ліпай адказаў наступнае:

«Хутчэй я выкарыстаю ў прапагандысцкіх мэтах тое, што мяне парэзалі, што была цэнзура. А канкрэтна — у мэтах прапаганды праўды таго, што насамрэч адбылося і што мне насамрэч паабяцалі».

**www.svaboda.org/content/article/25237700.html**

ЗАРОБКІ

# ЗАРОБАК БЮДЖЭТНІКАЎ ДАСЯГНУЎ ДНА

**Новы год пачаўся з заяў пра неабходнае павышэнне заробкаў работнікам «хуткай дапамогі». Тэма аказалася настолькі актуальнай, што і віцебскія, і брэсцкія медыкі далучыліся да патрабаванняў аб павышэнні заработнай платы. Інтэрнэт-газета Naviny.by вырашыла разабрацца, чаму ў бюджэтнай сферы з'явіліся сацыяльныя хваляванні і дзе выйсце з сітуацыі.**

Года павышэння заробкаў бюджэтнікі не адчулі

У 2013 шмат гаварылася аб высокіх тэмпах росту заработнай платы ў краіне, аднак гэты працэс назіраўся не ва ўсіх сферах. У прамысловасці, будаўніцтве рэальная (з улікам інфляцыі) заработная плата сапраўды прыкметна вырасла.

«У рэальным выражэнні да студзеня-лістапада 2012 заработная плата (за аналагічны перыяд 2013 — БелаПАН) вырасла на 17 % (прагноз на 2013 г. — на 7,1 %), у тым ліку: у будаўніцтве — на 30,3 %; ў гандлі — на 20,8 %, у сельскай гаспадарцы, паляванні і лясной гаспадарцы — на 20,0 %, на транспарце і ў сувязі — на 19,8 %, у прамысловасці — на 15,3 %», — паведамляецца ў студзеньскім аглядзе Міністэрства эканомікі.

Пры гэтым высокія тэмпы росту заробкаў у пералічаных відах эканамічнай дзейнасці не былі падмацаваныя адэкватным павышэннем прадукцыйнасці працы.

«Па-ранейшаму захоўваецца

*(працяг на стар. 4)*

ДЭНАМІНАЦЫЯ

# ПАКУЛЬ ЗАРПЛАТЫ МЕСЯЦЦА Ў КАШАЛЬКІ…

**Беларускія ўлады зноў загаварылі аб дэнамінацыі нацыянальнай валюты. Відаць, ім крыўдна , што з нашых мільёнаў смяюцца замежныя турысты і параўноўваюць з Зімбабвэ.**




Аднак праводзіць дэнамінацыю чыноўнікі пакуль не спяшаюцца, так як умовы яшчэ не паспелі. Падобна на тое, нулі прыбяруць толькі тады, калі зарплата перастане змяшчацца ў кашалькі.

Папярэдзім за паўгода

Як заявіў Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з кіраўнікамі беларускіх СМІ 21 студзеня, ужо ёсць надрукаваныя рублі і капейкі. Выглядаць новыя грошы будуць «нешта блізка да еўра», так як спецыялісты лічаць, што такі іх выгляд найбольш прымальны.

Але ўмовы для правядзення дэнамінацыі яшчэ не паспелі, лічыць Аляксандр Лукашэнка - не такая добрая сітуацыя ў эканоміцы , ёсць пэўныя трывогі ў насельніцтва.

«Нават калі ў гэтым годзе адчуем, што эканоміка стала нармальнай, вам за паўгода аб'явім, - паабяцаў кіраўнік дзяржавы, маючы на ўвазе аб'яву дэнамінацыі. - Будзем яшчэ выбіраць, тры ці чатыры нулі адкінуць».

Такім чынам, як было адзначана на сустрэчы, у выніку дэнамінацыі курс беларускага рубля можа ўсталявацца як адзін да аднаго або адзін да дзесяці ў дачыненні да даляра.

Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што аб правядзенні дэнамінацыі насельніцтву будзе абвешчана за паўгода да яе даты, а потым яшчэ на працягу года будуць паралельна хадзіць новыя і старыя купюры.

«Мы падумаем са спецыялістамі, калі гэты перыяд прыйдзе. Тут трэба быць вельмі асцярожнымі, - сказаў кіраўнік дзяржавы. - Мы гатовы ў любы момант правесці дэнамінацыю. Але ўсё-такі нават для гэтага тэхнічнага кроку павінны быць пэўныя ўмовы. Ці не павінна быць такая працэнтная стаўка, не павінна быць трывог на рынку, каб насельніцтва не хвалявалася. І ў эканоміцы каб не было крызісных з'яў» .

Лукашэнка нагадаў, што ў Беларусі ў свой час ужо праводзілася дэнамінацыя і баяцца гэтага працэсу не трэба.

«Але мы не гатовыя пакуль да гэтага. І не столькі тыя органы, якія правядуць гэтую дэнамінацыю, колькі насельніцтва і эканоміка, - сказаў кіраўнік дзяржавы. - Я думаю, што пройдзем гэты складаны, крызісны этап. І нават калі ў гэтым годзе мы адчуем, што эканоміка цвёрда стане на рэйкі нармальнага руху, мы за паўгода аб'явім народу, што будзем праводзіць дэнамінацыю».

«Гарантую! Падманваць не буду», - сказаў Лукашэнка.

Незаслужаная ўвага

Фінансавы аналітык афіцыйнага партнёра Альпары ў Мінску Вадзім Іосуб не бачыць вострай неабходнасці ў дэнамінацыі. На яго думку, увага да гэтай тэмы незаслужаная.

«Дэнамінацыя - гэта тэхнічнае мерапрыемства. Калі на купюрах і на цэнніках шмат нулёў, гэта стварае пэўныя нязручнасці. У першую чаргу для прыезджых, якія могуць блытацца ў гэтых нулях. На рост эканомікі, яе развіццё і ўстойлівасць гэта не ўплывае абсалютна. Нават нейкія асцярогі насельніцтва ў тым, што пры дэнамінацыі будзе акругленне у большы бок, цэны вырастуць, яны таксама некалькі перабольшаныя», - мяркуе эксперт.

У выпадку дэнамінацыі цэны ўвогуле не вырастуць альбо падвысяцца максімум на паўпрацэнта, кажа Вадзім Іосуб.

«У нас кожны месяц цэны вырастаюць больш», - дадае фінансавы аналітык.

Эканаміст Сяргей Чалы таксама бачыць асноўную пагрозу ад дэнамінацыі ў невялікім росце цэн і не бачыць асаблівага сэнсу ў ёй акрамя як для зручнасці рахунку.

Падобнага меркавання, дарэчы, прытрымліваецца і кіраўнік Нацбанка Надзея Ермакова. У прыватнасці, у маі 2012 года яна заяўляла, што не бачыць сэнсу ў дэнамінацыі, пакуль «яшчэ ў кампутары месяцца ўсе нулі, грашовыя паперы з многімі нулямі яшчэ месяцца ў кашалькі».

Вадзім Іосуб мяркуе, што дэнамінацыю варта праводзіць у выпадку, калі гадавая інфляцыя на працягу некалькіх гадоў будзе менш за 10 %.

«Маючы высокую інфляцыю, не варта праводзіць дэнамінацыю, так як праз некалькі гадоў апынецца, што яе трэба праводзіць паўторна», - кажа эксперт.

*(скарочана)*

**Аляксандр Ярашэвіч**

ЗАРОБКІ

*(пачатак на стар. 3)*

значны разрыў у тэмпах росту прадукцыйнасці працы і рэальнай заработнай платы — 14,9 працэнтнага пункта ў студзені-лістападзе 2013. Апераджальны рост рэальнай заработнай платы ў дачыненні да прадукцыйнасці працы забяспечваецца, але прыносіць урон фінансавай эфектыўнасці прадпрыемстваў», — тлумачаць спецыялісты Мінэканомікі.

А вось павялічваць зарплаты бюджэтнікам «на шкоду» казне дзяржава не стала. Рэальная заработная плата бюджэтнікаў у студзені-лістападзе 2013 у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года вырасла незаўважна: у дактароў — на 3,6 %, у настаўнікаў — на 2,7 %.

Улічваючы, што рост заробкаў у рэальным сектары істотна пераўзыходзіў тэмпы павелічэння заробкаў бюджэтнікаў, даходы апошніх на фоне іншых работнікаў зніжаліся. У адносінах да сярэдняй зарплаты ў краіне даходы бюджэтнікаў дасягнулі «дна», калі прааналізаваць сітуацыю за апошнія гады.

«Суадносіны зарплаты ў бюджэтнай сферы да яе ўзроўню ў цэлым па эканоміцы маюць тэндэнцыю да зніжэння: у 2011 годзе — 83,9 %, у 2012 годзе — 80,9 %, у студзені-лістападзе 2013г. — 74,5 %», - паведамляецца ў апошнім аглядзе Міністэрства эканомікі.

Няпрофільныя выдаткі высмоктваюць грошы з казны

Праблема заключаецца ў тым, што для павышэння заробкаў бюджэтнікаў грошай у казне … няма. Бюджэт на 2014-ы, прыняты беларускіх парламентам у канцы снежня, не прадугледжвае павышэння даходаў работнікаў бюджэтнай сферы.

«Бюджэт на бягучы год прадугледжвае, што рост намінальнай заработнай платы бюджэтнікаў магчымы толькі на ўзроўні інфляцыі, а рост рэальнай зарплаты — толькі ў выпадку скарачэння колькасці бюджэтных арганізацый і бюджэтнікаў», — канстатуе эканаміст даследчага цэнтра ІПМ Глеб Шымановіч.

Намеснік міністра фінансаў Максім Ермаловіч, выступаючы ў парламенце восенню, адзначаў: крытычна важна, каб сярэдні заробак у бюджэтным сектары быў не ніжэйшы за 80 % ад сярэдняй зарплаты па краіне. Інакш пачынаюцца неспрыяльныя працэсы, звязаныя з адтокам кадраў з бюджэтнай сферы.

Тым не менш, да гэтага часу гэта суадносіны, як мы адзначалі вышэй, ужо апусцілася ніжэй за 75 %. Разам з тым, Мінфін канстатуе, што грошай у казне для павышэння рэальнага заробку бюджэтнікам на 2014 год не прадугледжана.

*(скарочана)*

**Дзмітрый Заяц**
**БЕЛАПАН**

ПОГЛЯД

# НЕТ ПРОБЛЕМ

**Пресс-конференция Лукашенко вновь прошла в духе «петух прокукарекал, а там хоть не рассветай».**

По крайней мере, так выглядели теле- и газетные версии встречи главы государства с главными редакторами. Серьезных проблем в стране нет, твердо идем своей дорогой, и даже мама президента говорит, что жить стало лучше…

Честно говоря, мне тоже лучше. Например, с годами научилась говорить любому дураку, что он дурак. Хотя моя мама учила, что делать этого не нужно, поскольку такое поведение грубое и нетактичное. Однако, как выяснилось, в долгосрочной перспективе это умение очень облегчает жизнь.

А уж насколько лучше стало жить человечество! Телефон сейчас может быть не только в каждом доме, но и в каждом кармане, давно нет надобности устраивать постирушки в проруби, да и в сорок лет никто не чувствует себя глубоким стариком, каковыми в этом возрасте были наши предки.

На том, собственно, мир и держится. Потому и не погибли «хомо сапиенс» как биологический вид, что научились делать так, чтобы с годами и жить, и умирать становилось лучше, комфортнее. Мы все вместе этому научились. Хотя некоторые чудаки до сих пор зовут людей в натуральное хозяйство и призывают лечить болезни не с помощью врачей, а с помощью молитв.

Дети растут, солнце встает, зима сменяет осень, а девяностую весну своей жизни обязательно ценишь больше, чем первую… Нечем тут хвастаться.

Повод для радости - это когда какую-то проблему ты, наконец, решил. Но Лукашенко важно другое - прокукарекать, что проблем нет.

Дома строятся. Хотя это не значит, что мы решили или знаем, как решить жилищную проблему и сделать квартиры доступными.

Модернизация идет полным ходом. Но модернизированные предприятия работают ничуть не лучше, чем их коллеги-старички, оказываются в еще большей финансовой яме, в еще больших долгах.

Спорт этот несчастный… Лукашенко своими руками много лет создавал беспрецедентную систему поддержки спорта. В итоге слово «спортсмен» скоро войдет в наш лексикон как уничижительно-ругательное.

Белорусы не говорят по-белорусски – подождем, может, рассосется. Народ в секстиллионах считать не научится – уберем с денег лишние нули, тем более, что не впервой. Что будет со страной через 30 лет? Что-то будет…

Нет проблем! Не должно быть! Не рассветай!

**Светлана Калинкина**
**«Народная воля»**

РЭХА МАЙДАНА

# БАРАНІЦЬ СВАБОДУ ТРЭБА ЎВЕСЬ ЧАС

**Украінцы, змагаючыся на Майдане за сваю свабоду, за еўрапейскі шлях развіцця краіны, падстаўляюць плячо і беларусам, паказваючы прыклад адстойвання сваіх правоў і свабод, - лічыць старшыня Руху "За Свабоду" Аляксандр Мілінкевіч:**

- Не бывае ў палітыцы чагосьці, што падае бясконца з неба, - без самаахвярнасці, без барацьбы за гэта. Нават у дэмакратычных краінах бараніць свабоду трэба ўвесь час. Таму што заўсёды ёсць тэндэнцыі да ўзмацнення, да жорсткасці ўлады, да абмежавання дэмакратыі. І ўкраінцы паказваюць вельмі добры прыклад гэтым шырокім народным рухам. Людзі і старэйшыя, і маладзейшыя кажуць увесь час гэтае слова, можа я не вельмі яго люблю, але яно адпавядае: мы не хочам быць быдлам.

Таму значнасць апошніх падзей у Кіеве у тым, што ўкраінскі народ дэманструе, што ўжо ніколі не будзе маўклівым натоўпам, якім нас усіх спрабавалі зрабіць у савецкія часы, - упэўнены Аляксандр Мілінкевіч.

**Заснавальнік і рэдактар:**
Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru
Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V),
Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 29.01.2014 у 20.35**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.